BIELARUS
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
Subscription $ 12.00 yearly.
„БЕЛАРУС" — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 12.00 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## ЛІСТ ДАРАДЧАЕ РАДЫ БАПЦ МІТРАПАЛІТУ УАПЦ МСЬЦІСЛАВУ

Дарадчая Рада Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы выслала галаве Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Мітрапаліту Мсьціславу ліст (датаваны 14 сьнежня 1981 г.), у якім кажацца, што пераважная бальшыня вернікаў БАПЦ пратэстуе супраць дзеяньня, якое Дарадчая Рада ўважае за умяшаньне УАПЦ у нутраную справу БАПЦ, г. зн. справу хіратанізацыі а. Яна Бруцкага. У лісьце кажацца, што праваслаўная традыцыя не дазваляе аднэй царкве ўмешвацца ў справы другое царквы-сястры, калі ў гэтай апошняй існуюць непаразуменьні. Пра непаразуменьні-ж у БАПЦ Уладыку Мсьціславу паведаміў быў Архіепіскап Мікалай пісьмова й вусна ў прысутнасьці а. Расьціслава Войтанкі, паведаміў таксама аб тым, што ў БАПЦ няма згоды што да высьвячэньня а. Бруцкага ў епіскапы, паколькі а. Бруцкі ня меў закончанае багаслоўскае асьветы ды, апрача гэтага, вёў і яшчэ ўсё вядзе справу ў сьвецкім судзе супраць парахвіі БАПЦ у Гайлянд Парку, Н. Дж., парушаючы гэтым каноны праваслаўнае Царквы. Не зважаючы на гэта, а. Бруцкі быў хіратанізаваны ў пагвалтаваньне статуту БАПЦ. Вось чаму, кажацца ў лісьце, беларуская праваслаўная грамада не прызнае яго за епіскапа БАПЦ.

Дарадчая Рада БАПЦ заклікала Мітрапаліта УАПЦ Мсьціслава зрабіць магчымыя захады, каб спрычыніцца да нармалізацыі дачыненьняў паміж дзьвюма сястрычнымі Цэрквамі.

Ліст Дарадчае Рады БАПЦ падпісалі старшыні царкоўных радаў парахвіяў БАПЦ у Гайленд Парку — сп. Генадзь Дубяга, у Дэтройце — др. Язэп Сажыч, у Кліўленьдзе — сп. Кастусь Калоша, у Тароньце — сп. Н. Сільвановіч, а таксама сябры Дарадчае Камісіі пры Архіепіскапу Мікалаю: сп.сп. Янка Азарка, Аляксандар Міцкевіч, Аляксандар Сільвановіч, Сяргей Карніловіч, Васіль Русак, Васіль Пляскач, Мікола Ганько й Уладзімер Русак.

## КРЫЖЫКІ НА ШЫЯХ, ІКАНАСТАСЫ У КВАТЭРАХ

Рэлігія не дае супакою савецкім атэістам. У газэце „Зьвязда" (за 21 студзеня 1982 г.) зьмешчаны вялікі артыкул пад заг. „Прыкрываючыся імем Бога . . .". Аўтар артыкулу В. Пепляеў піша:

„Клерыкальныя антыкамуністы імкнуцца падтрымаць уласна рэлігійныя погляды і настроі ў часткі савецкіх людзей, закідваючы тым або іншым спосабам рэлігійную літаратуру, засылаючы рэлігійных эмісараў для актывізацыі асобных сэктанцкіх арганізацыяў, якія не зарэгістараваныя і вызначаюцца антыграмадзкім характарам дзейнасьці".

На пачатку свайго артыкулу аўтар робіць таксама прызнаньне:

**„Не-не ды й сустрэнешся з праяўленьнямі сваеасаблівай моды на царкоўную атрыбутыку: крыжыкі на шыях, брошкі з царкоўнымі сюжэтамі, іконы або нават цэлыя іканастасы ў сучасных кватэрах і г.д.".**

„Зьвязда", орган ЦК кампартыі Беларусі, заклікае партыйны актыў „даваць сваечасовы адпор ідэялягічным наскокам нашых праціўнікаў", „істотна пераарыентаваць навукова - атэістычную прапаганду", „павысіць ролю й значэньне школы, сям'і, працоўнага калектыву, грамадзкай думкі ў цэлым у барацьбе з рэлігійнымі пережыткамі".

Пепляеў тлумачыць рэлігійныя настроі на Беларусі вонкавымі ўплывамі ды заклікае да супрацьдзеяньня ім:

„Імкненьне зарубежных антыкамуністычных цэнтраў і рэлігійных арганізацыяў аказаваць варожы ўплыў на нашых людзей настойліва патрабуе ўзмацненьня палітыка-выхаваўчай, контрпрапагандысцкай работы".

Сярод замежных арганізацыяў, якія, паводля „Зьвязды", уцягнутыя „ў арбіту клерыкальнага антыкамунізму", згадваецца й „Беларускае евангельска - баптысцкае брацтва".

### „ЗВАЖАЙ" № 1(25)

У нумары часапісу Беларускіх Вэтэранаў за сакавік сёлета зьмешчана: заклік „Фонд Беларускай Бібліятэкі" (лёнданскае); арт. В. Сянкевіча „Вайна 1812 году й Беларусь" (заканчэньне); арт. „Высокі кошт утрыманьня В'етнаму"; арт. Язэпа Барэйкі „Сваімі сіламі (Да ўгодкаў заняцьця Менску беларускімі аддзеламі" (1918 г.); рэцэнзія К. Акулы на кніжку А. Гідоні „Солнце идет с Запада"; хроніка.

## "ЯК ДУХ ЗМАГАНЬНЯ БЕЛАРУСІ"

(Працяг зь першай бач.)

Івашкевіч, Магдалена Радзівіл і іншыя" (Л. Абэцэдарскі і інш., „Насуперак гістарычным фактам" — у часапісе „Комунист Белоруссии" № 5, 1963 г., пераклад пабеларуску ў часапісе „Полымя", № 7, 1963 г., б. 167).

. Дубейкаўская ў сваіх успамінах згадвае пра Зыгмунта Нагродзкага, собсьніка складу землеробскіх машынаў, сябру Франьцішка Багушэвіча, „які часам даваў хоць невялікае падтрыманьне ‚Нашай Ніве' (галоўна даючы ў ёй свае абвесткі).

Але галоўным у фінансаваньні „Нашае Нівы" быў сам Іван Луцкевіч, які і на газэту і на ўсю беларускую працу, як піша Дубейкаўская,

„аддае ўсе свае грошы, што здабывае: ці як пасярэднік у гандлёвых транзакцыях із заграніцай, ці як сябра фінансавых прадпрыёмстваў, а найбольш як антыквар . . . Ён, як археалёг, знаецца на старасьветчыне, дзе ён можа, там выкупляе рэчы краёвай вартасьці для сваіх музэальных збораў і пры гэтай нагодзе купляе антыкі, каб іх потым за адпаведную цану прадаць . . . Сам Іван Луцкевіч із сваім братам Антонам жылі надта скромна, гэта я сама бачыла. Паза працай грамадзкай Іван Луцкевіч быў змушаны траціць вольныя часіны на здабываньне грошай. Калі ён часта зморань вяртаўся дамоў із сваіх пошукаў антыкаў, а блізкія яму людзі прасілі яго памятаць аб сабе й сваім слабым здароўі, то ён адказваў: ‚Ваўка ногі кормяць' ".

І ў другім месцы:

„Іван Луцкевіч быў найлепшы знавец старасьветчыны й мастацтва на ўвесь край. Усюды, дзе ён толькі ні бываў, ягоныя вочы шукалі старасьвецкіх і мастацкіх рэчаў. Ён меў нейкі спэцыяльны ‚нюх', каб знаходзіць гэтыя рэчы там, дзе, здавалася-б, зусім ня месца ім. Набываў ён іх, пераважна, як бязвартасныя рэчы, за грашы. Тады ён ведаў, як гэтыя рэчы рэстаўраваць, і калі яны мелі беларускую характарыстыку — пакідаў іх у сваіх музэйных зборах, калі-ж яны гэтай характарыстыкі ня мелі — прадаваў за належную ім цану".

Гэта й была галоўная крыніца фінансаваньня выданьня „Нашае Нівы", і з пэўнасьцяй можна цьвердзіць, што каб ня Іван Луцкевіч, „Наша Ніва" не магла-б выходзіць рэгулярна ад 1906 па 1915 год.

(Далей у наступным нумары)

**Ант. Адамовіч**

# МАСТАЦКАЯ ВЫСТАЎКА У ТАРОНЬЦЕ

**Ад Рэдакцыі:** У студзенскім нумары „Беларуса" была зьмешчаная карэспандэнцыя нашага супрацоўніка з Таронта пра адзначэньне там у лістападзе летась 1000-годзьдзя Беларусі й Дня Гэрояў. Сьвяткаваньне гэтае, дбайліва арганізаванае Згуртаваньнем Беларусаў Канады, было праведзенае з шырокім закроем, з прыгожа выдадзенай праграмкай-запросінамі ды пры вялікім ліку ўдзельнікаў.

У папярэдняй карэспандэнцыі з гэтае ўрачыстасьці было зазначана, што пра мастацкую выстаўку, наладжаную з нагоды юбілею „трэ было-б пісаць асобна". Вось-жа мы й зьмяшчаем ніжэй апісаньне выстаўкі, прысланае нам да гэтага нумару.

* * *

Сп-ня Івонка Сурвіла, якая вяла юбілейны сход, перайшла ад сівое мінуўшчыны, якой быў прысьвечаны даклад др. В. Жук-Грышкевіча, да цяперішчыны — дзейнасьці беларускіх мастакоў у Канадзе. Каб паказаць на значэньне мастацтва ў жыцьці народу, ды наагул людзей, яна прачытала „Апокрыф" Максіма Багдановіча. Афіцыйна выстаўку адчыніла паэтка Натальля Арсеньнева. У выстаўцы былі прадстаўленыя працы сп. Юркі Акулы, сп-няў: Валі Пашкевіч, Аляксандры Протас, Івонкі Сурвілы й сп. Міколы Шуста.

### Фантастычныя скульптуры Ю. Акулы

Прыемнай неспадзеўкай былі фантастычныя скульптуры наймалодшага з удзельнікаў Юркі Акулы. Калі кажам — скульптура, на думку перш за ўсё прыходзіць статуя з каменя, бронзы, ці дрэва. Скульптура 20-га веку, зрэшты, як і малюнак, сьмела шуганула ў няведамае дагэтуль наватарства. Далікатна збалянсаваная канструкцыя найбольшага наватара ў гэтай галіне Аляксандра Кальдэра, хоць падобная больш да галінкі, якую найменшы рух паветра калыша, а не статуі, таксама называецца скульптурай.

Пераважна абстрактнага характару канструкцыі Юркі Акулы з дрэва-фанеры адзначаліся гарманічнай плаўнасьцю закругленых, ледзь ня спіральных формаў. Усе скульптуры былі лёгкія, не грамоздкія, чыстай кампазыцыі. Некаторыя зь іх нагадвалі фантастычныя казачныя стварэньні. На пытаньне, скуль Юрка браў помыслы, быў адказ: „Гэта інсьпірацыя з таго, што калісь бачыў". Задуманае ён сьпярша рысаваў на паперы, а пасьля будаваў. „Мне памагаў настаўнік", — сказаў ён. На працягу двух гадоў Юрка наведваў мастацкую школу ў Тароньце, дзе, як ён казаў, „вучылі рысаваць часткі машын".

### Эстэтычны дыван В. Пашкевіч

Наведвальнік выстаўкі ня мог не зьвярнуць увагі на эстэтычны дыван, вышыты крыжыкам чырвонай воўнай на крэмава-белым фоне раскошным беларускім узорам. Сп-ня Валя Пашкевіч, аўтарка падручніка „Беларуская Мова", а таксама й дывана, дала яго фактычна на просьбу арганізатараў дзеля ўпрыгожаньня залі.

### Гістарычны дыван А. Протас

Ня толькі мастацкую але ў музэйную вартасьць меў экспанат сп-ні Аляксандры Протас. Гэта тканы дыван, адзіны ў сваім родзе. На шэрым, натуральнага колеру воўны, тле па абодвух канцох уложаныя розных шырыні бел-чырвона-белыя сьцягі-палосы. Але зь якім вычуцьцём мастака яны ўложаныя!

Дыван гэты ткала пяцьдзесят год таму сп-ня Аляксандра Протас у сваім радавым фальварку Забалоцьце, Язьненьскай гміны, Дзісьненскага павету. Аснова — лён, уток — воўна. Ткала сп-ня Аляксандра дыван на выстаўку ў Вільні, дзе ён зрабіў вялікае ўражаньне, асабліва на ксяндза Адама Станкевіча, які канчальна й стаўся ягоным собсьнікам.

Вярнуўшыся зь Вільні, сп-ня А. Протас выткала другі ідэнтычны дыван для сябе, і зь ім дагэтуль ніколі не расставалася. Цяпер яна прызначыла яго для беларускіх выставак, а пасьля — для музэю. Для гэтае-ж мэты яна падаравала й тканы ёю ў чатыры ніты белым кужалём ручнік, па канцох аброблены цянюткай кужэльнай, узорам „у каклюшкі", карункай, белы ільняны ў шаснаццаць нітаў абрус ды беларускі народны касьцюм.

### Афорты Іванкі Сурвіла

У найнавейшых выстаўленых гэтым разам працах мастачкі Івонкі Сурвілы бачым апрача рысункаў алоўкам, тушам, акварэляй, нешта новае — афорт (мастацкі від гравюры). Гэта нова здабытая мастачкай тэхніка для самавыяўленьня.

Пэўна-ж, найважнейшае ў мастака гэта наяўнасьць творчага ўяўленьня, творчай візіі. Гэты мамэнт і адрозьнівае мастака ад толькі тэхнічнага выканаўцы — рамесьніка. Ды ўсё-ж мастак мусіць быць і добрым рамесьнікам, мусіць мець добра апанаваную тэхніку рысаваньня, маляваньня і г. д. Мастаку патрэбнае ўменьне выкажыць сваю творчую задуму на палотнішча ці паперу, каб магчы яе камунікаваць іншым.



Івонка Сурвіла: „Вялікдзень" (афорт)

Тэхніка афорту вынайдзеная ў XVI-м стагодзьдзі ў Нямеччыне. Карыстаўся ёю А. Д'юрэр. Да росквіту афорт дайшоў у XVII-м ст. асабліва ў творчасьці Рэмбранта. Афортам выкананыя працы Ф. Гоя з цыклю „Беды вайны". Цяпер на Беларусі ведамыя афорты мастакоў Л. Рана, А. Пасьлядовіча, А. Кашкурэвіча, Г. Пасьлядоўскага ды іншых.

Ды для мяне, як гледача, спажыўца мастацтва, менш важна, якую тэхніку ўжываў мастак, а важна, ці прамаўляе да мяне даны абраз, ці адбіваецца ён у маёй душы нейкім перажываньнем, ці дае мне ён эстэтычнае задаваленьне, ці ня робіць ніякага ўражаньня. І тое, як на мяне ўзьдзейнічае даны абраз, як я на яго рэагую, не забавязвае нікога іншага, бо кажны з нас мае іншы духовы й інтэлектуальны багаж, іншую духовую канстытуцыю.

Мініятурны афорт „Вялікдзень", хоць найменшы разьмерам, перш за ўсё зьвярнуў на сябе ўвагу. Ён прадстаўляе пару дзяцей у беларускай вопратцы, занятых вялікоднымі яйкамі. Асабліва прыгожа зарысаваная сыльвэтка профілю хлапца, ажыўляе, надае тон і прыгажосьць абразку. Эстэтычны эфэкт узмацняе й тло, узор якога атрымаўся, дзякуючы тэхніцы афорту.

Пачуцьцёва ўзьдзейвае блакіт акварэлі й тушу „Каляды". Абразок настраёвы, хоць трохі сэнтымэнтальны, прадстаўляе дзяцей, што моляцца перад зоркай.

Афорт „Дзьве беларускія дзяўчынкі" — прыемная гумарэска. Зь якой любоўю й усьмешкай у душы мусіла мастачка — майстра лініі — рысаваць камічныя у сваёй позе, а разам з тым упэўненыя ў сабе, дзяўчаткі ў беларускай вопратцы. Інакш кажучы, прадмет абраза й спосаб ягонага прадстаўленьня паслужылі мастачцы для выражэньня ейных пачуцьцяў, зь якіх найважнейшымі былі любоў да дзяцей і беларушчыны.

### Сымфонія пачуцьцяў

Паважнейшыя і, сказала-б, глыбейшыя думкі й пачуцьці выражае рысунак алоўкам „Паўлінка ў палескім касьцюме". У чым-жа павага й глыбейшы зьмест? У багацьці элемэнтаў, скамплікаванасьці й тонкасьці кампазыцыі, задавальняючай гармоніі лініі. Узор на каўняры блюзкі, лінія шыі, пляча, узоры на рукавох, на хвартуху, лініі рук, стану, рубца хвартуха усё згармапізавана ў адну цэласьць. Асалода глядзець, як адзін матыў пераліваецца ў наступны. Гэта ня лёгкая песенька папярэдняе гумарэскі, гэта скамплікаваная сымфонія пачуцьцяў і думак у дачыненьні да прадмету абраза — Паўлінкі, да жыцьця, да нацыянальнай справы.

Інакш успрыймаеш большага разьмеру рысунак тушам. На ім быццам застылая ў нярухомасьці жаночая фігура ўся цёмная, сьвятло падае толькі на сьхіленую на плячо галаву. Рысаў твару й вачэй ня відаць, але адчуваеш, што яны „мокрыя ад сьлёз". Рукі зложаныя ў бясьсільным горы. На думку прыйшлі словы Васіля Быкава зь „Мёртвым не баліць": „Дзядзька плакаў бязь сьлёз".

Усьцяж прыцягвае да сябе ўвагу афорт „Белая вежа". У засьнежаную ноч высіцца ў неба манумэнтальная вежа. Пакорыцца перад ёю сымбалічна зарысаваная сямю дрэўцамі пушча. Эмацыянальны эфэкт засьнежанасьці бачым і ў афорце „Касьцёл у Ішкаўдзі".

Беззаганны ў выкананьні й рысунак тушам „Паўлінка". Элегантнай лініяй сказана ўсё. Ёю вылажаная на паперу душа.

### „Беларуска"

Усе тут успомненыя абразы Івонкі Сурвілы маюць беларускі зьмест, тэматыку. Тым ня менш, яны маюць і вартасьці унівэрсальныя ды вечныя. Абраз, які асабліва мае гэткія ўнівэрсальныя вартасьці, гэта афорт „Беларуска". З усіх абразоў ён найбольш экспрэсійны, найглыбейшы і, як гэткі, вымагае большай увагі, каб яго асэнсаваць. Прадстаўляе ён маладую дзяўчыну ў сядзячай позе. Абраз адзначаецца надзвычай прыгожай кампазыцыяй лініяў і плошчаў розных адценьняў шэрага, белага й чорнага колераў. І якраз гэтая кампазыцыя, поза дзяўчыны, спосаб трыманьня рук, ног, шыі й галавы, вачэй і вуснаў выражае трывожны стан душы. Гэтая гордасьць, злагоджаная сумам вачэй. Узьнятая на белай элегантнай шыі галава быццам кажа: „Не зважаючы на нягоды (чорнае тло), вашае недацэньваньне мяне, я знаю сабе цану, свае магчымасьці, і яшчэ пазнаеце маю, як Беларускі, вартасьць!"

Аб далікатнасьці душы кажуць рукі, ногі, далікатна зарысаваны матарыял блюзкі, на рукавох беларускі ўзор. Толькі словамі не апішаш усяго. Добры абраз варты больш за тысячу слоў . . .

### Інкрустацыі Міколы Шуста

З гэткім пачуцьцём сумнай гордасьці й веры ў свае сілы пераходзім да наступнага гнязда выстаўкі — інкрустацыяў сп. Міколы Шуста. Ен выяўляе сябе ўмельствам выкладаньня саломкай, умельствам дабіраньня колераў так, што ягоныя пераважна геамэтрычныя ўзоры, выкладзеныя дробнымі кавалачкамі разнаколернай саломкі пры адпаведным насьвятленьні загараюцца радасьцяй у душы гледача.

(Заканчэньне на 4-ай бач.)

# УСЁ ЖЫЦЬЦЁ — РОДНАЙ ПЕСЬНІ

### Зорка першае вялічыні

Надыйшла вестка, што 21 сьнежаня 1981 г. ў Чэскай Празе памёр на 82-м годзе жыцьця выдатны сьпявак-тэнар, які ўсё сваё жыцьцё і талент аддаў беларускай песьні — Міхал Забэйда-Суміцкі.

На захмараным нацыянальна-палітычным небасьхіле былое Заходняе Беларусі пад Польшчай талент Забэйды-Суміцкага, як сьпевака, у сярэдзіне 1930-х гадоў загарэўся раптам, і то зоркай першае вялічыні. На канцэртных эстрадах неспадзявана зьявіўся раней ня чуты й нікому ня ведамы мастак песьні, сьпявак з завершанай эўрапейскай музычнай адукацыяй ды на ўзвышшы сілаў свайго таленту, і запяяў беларускую песьню ў нячутым да таго часу майстэрскім выкананьні. Сваёй неспадзяванасьцяй гэта ўражала тады як нейкае дзіва, хоць шлях мастака песьні ад сялянскае хаты й да канцэртнае эстрады ня быў просты й лёгкі.

### Зь сялянскае сям'і

Нарадзіўся Міхал Забэйда-Суміцкі 14 чырвеня 1900 году на Палесьсі, у вёсцы Несьцяровічы непадалёк ад Ружаны. Бацька Іван, безьзямельны селянін, памёр, калі сыну было толькі паўтара году, і хлопец рос пад апекай толькі маткі Аляксандры, з дому Суміцкай. Жылося ня лёгка. Зь семярох дзяцей сям'і выжыў толькі Міхась, і да веку 22 гадоў дажыў адзін брат. Усе іншыя паўміралі ў маленстве.

Маці, хоць сама няпісьменная, сыноў старалася вучыць. Навука Міхася пачалася з хатняга навучаньня. Пасьля, па сканчэньні царкоўна-прыхадзкой школы ў Галоўчыцах, Міхась Забэйда ўвосені 1914 г. здаў конкурсны экзамен у настаўніцкую сэмінарыю ў Маладэчне. У сэмінарыі вучыўся вельмі добра, здабыў дзяржаўную стыпэндыю. Але ў 1915 г., калі набліжаўся нямецка-расейскі фронт вайны, было загадана эвакуавацца — „не надоўга" — на ўсход.

Пасьля блуканьняў у бежанстве, Міхасю Забэйду ўдаецца закончыць у 1918 г. ў Смаленску настаўніцкую сэмінарыю, і ён едзе адразу да маці, якая тады была ў Сібіры. Там малады настаўнік дастае працу ў школе. Навокала тымчасам ужо бушавала грамадзянская вайна, і Міхась Забэйда хутка пакінуў межы Расейскай імпэрыі, пераехаў у Манджурыю, дзе, ад 1920 г., працаваў у Харбіне.

### У Манджурыі

У Харбіне Забэйда-Суміцкі пачаў працу над сваім голасам і музычнай адукацыяй, першыя асновы якое ён дастаў яшчэ ў сэмінарыі. Песьню й сьпеў палюбіў ён ад маленства, калі разам з маткай сьпяваў беларускія песьні. Лекцыі сьпеву ў Харбіне браў у прафэсара Ю. Плотніцкай, былой партнэркі Шаляпіна, у Тамашынскай вучыўся ігры на фартапіяне, а ў прафэсара Мэттэра пазнаваў асновы гармоніі.

Па двух гадох навуку сьпеву Міхась Забэйда неспадзявана кінуў ды запісаўся на эканамічны факультэт Харбінскага ўнівэрсытэту. Калі ён скончыў унівэрсытэт у 1929 г., і зь вельмі добрым вынікам, яму прапанавалі застацца асыстэнтам. Але „сэрца хацела сьпяваць", і абсальвэнт эканамічнага факультэту ізноў вярнуўся да песьні — накіраваўся ў опэру.

### Ад эканоміі назад да опэры

За час трох гадоў Забэйда-Суміцкі выступіў у 15-х опэрных ролях тэнара: Ленскага ў „Аўгене Анегіне", Фаўста ў опэры Гуно, у „Травіяце", „Рыгалета" ды іншых опэрах. Выступы мелі ўдачу й сьпявак пачаў верыць у свой талент і сілы ды ашчаджаў, зьбіраў грошы, каб магчы рэалізаваць сваю мару — паехаць у Італію й там дасканаліць голас.

У 1932 г. Забэйда-Суміцкі ўжо ў Італіі, у Міляне. У прафэсара Фэрнандо Карпі ён пачынае навуку сьпеву „бэльканто". Хутка ён стаў выступаць і на канцэртах, пяяў у опэрах — „Травіята", „Рыгалета", „Фаўст", „Сэвільскі цырульнік". Песьні выконваў у мовах італьянскай, француcкай, гішпанскай, расейскай.

### Зь Міляну ў Варшаву

У 1935 г., па заканчэньні навукі, Забэйда-Суміцкі едзе дамоў, да маці на Палесьсі, якое ня бачыў 16 гадоў. У гэтым годзе ён падпісвае аднагадовы кантракт з Пазнанскай опэрай. Пяе цяпер папольску ды пашырае свой рэпэртуар новымі тэнаровымі ролямі опэраў „Выкраданьне з Сэралю" Моцарта, „Юлі Цэзар" Гэндэля, „Барыс Гадуноў" Мусаргскага ды іншых. Калі час кантракту скончыўся, Забэйда-Суміцкі пераяжджае да Варшавы, пяе там у радыё.

У праграму сваіх радыёвых выступаў сьпявак час-ад-часу ўлучае й беларускія песьні, якія дыктар аднак называў „песьнямі палескімі", бо перадаваць праз польскае радыё песьні беларускія тады не дазвалялася. Адну гэткую перадачу зь песьнямі „Зялёны дубочак" ды „Чаму-ж мне ня пець" трапілася чуць Рыгору Шырме, тады кіраўніку хору Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні. Шырму ўразіла высокамастацкае выкананьне й шчырая інтэрпрэтацыя песьняў ды беззаганная беларуская вымова сьпевака, і ён адразу навязаў зь ім пісьмовы кантакт.

### Лучнасьць з Р. Шырмам і віленскі трыюмф

Пры дапамозе Р. Шырмы Забэйда-Суміцкі ўзбагаціў свой рэпэртуар салёвымі сьпевамі беларускіх народных і арыгінальных песьняў у кампазыцыі Грэчанінава, Кошыца, Гайваронскага, Галкоўскага, - кампазытараў, якія беларускія песьні апрацоўвалі й кампанавалі для студэнцкага хору Шырмы.



М. Забэйда-Суміцкі ў часе канцэрту ў залі Бэтховэна Бэрлінскай Фільгармоніі 13 студзеня 1945 г,

16 травеня 1937 г. ,у вялікай залі Сьнядэцкіх Віленскага ўнівэрсытэту, Беларускі Студэнцкі Саюз зладзіў „Канцэрт беларускай песьні" з салёвымі сьпевамі М. Забэйды-Суміцкага й выступам студэнцкага хору Р. Шырмы. Акампаніяваў кампазытар К. Галкоўскі.

У дзень канцэрту унівэрсытэцкая заля была поўная, народу больш за паўтысячы: студэнты, беларуская інтэлігенцыя, работнікі Вільні. На бальконах шчыльна засела гімназіяльная моладзь. У праграме выступу Забэйды-Суміцкага спачатку — песьні выдатных тварцоў сусьветнае музыкі — італьянскіх, нямецкіх, — а пасьля песьні беларускія: „Конь бяжыць, зямля дрыжыць", „Ды ўжо сонейка", „Калыханка", „Лявоніха" ды шмат іншых. Уражаньне аўдыторыі ад першае сустрэчы з мастаком сьпеву нязвычайнае: у Вільні яшчэ ніхто беларускай песьні не пяяў з гэткім глыбокім пачуцьцём ды майстэрствам.

Зь першай песьняй між сьпеваком і слухачамі завязаўся духовы кантакт, сыпаліся воплескі, заля дамагалася паўтораў, асабліва „Лявоніхі", якую Забэйда пачынаў сваім задорыстым працяглым „Ой", у якім чуўся гул і тупат селавое ў разгары вечарынкі. Была вясна, месяц травень, кветак ставала, і сьпевака шчодра абдарылі букетамі красак, з балькону моладзь засыпала яго бэзам, а па закончаным канцэрце студэнты падкідалі на руках.

### На гастролях па Беларусі

Да пачатку вайны Забэйда яшчэ разоў колькі выступаў у Вільні, даваў таксама канцэрты па меншых местах Заходняе Беларусі — у Беластоку, Ваўкавыску, Слоніме, Баранавічах, Навагрудку, Лідзе, Берасьці, а таксама ў Варшаве. Ладзіліся гэтыя канцэрты рознымі — беларускімі й небеларускімі — лякальнымі арганізацыямі. Але ў праграме заўсёды побач песьняў італьянскіх, польскіх ды іншых, былі й песьні беларускія, і на іх заўсёды была сканцэнтраваная ўвага і сьпевака, і залі. На канцэрты Забэйды-Суміцкага беларускія слухачы пачалі прыяжджаць за колькідзесят кілямэтраў. Варшаўская фірма „Одэон" выдала пяць кружэлак з запісам дзесяцёх беларускіх народных песьняў у выкананьні М. Забэйды-Суміцкага ў суправаджэньні аркестры.

Беларускую песьню Забэйда-Суміцкі пазнаў і палюбіў ад дзён свайго маленства. Калі яго раз запыталіся, хто быў ягоным першым настаўнікам сьпеву, Забэйда адказаў: „Мая маці. Ад яе я пераняў любоў да песьні. Дзякуючы ёй песьня сталася маёй мовай. Калі я ўспамінаю маці, адразу чую ейны густы, аксамітны, мяккі голас, ейныя песьні . . ." Пра сакрэт-жа майстэрства свайго сьпеву ды асабліва інтэрпрэтацыі песьні, Забэйда выказаўся так:

„Сьпявак мусіць жыць тым, пра што сьпявае. Ягоны сьпеў павінен быць творчым, каб захапіць слухача. Але ня прыходзіць гэта адразу. Даводзіцца доўга працаваць над тым, каб зжыцца, зьліцца із зьместам сьпяванага . . . Асабліва гэта важна для песьні. У опэры дапамагаюць сытуацыя, касьцюмы, дзеяньне. У песьні нічога гэтага няма. Таму так цяжка песьні сьпяваць, таму так мала хто іх добра сьпявае. Трэба выклікаць, стварыць у сабе адпаведны настрой раней, чым зачнеш песьню сьпяваць, бо песьні звычайна кароткія, і калі гэтага ня зробіш раней, то, сьпяваючы, ужо не песьпееш гэты настрой стварыць".

### Паліцыйнае заціскаyьне песьні

Антыбеларускі курс польскае ўлады ў апошнія перад вайной гады завайстраўся. Зачыняліся беларускія культурныя арганізацыі, канфіскаваліся, а часта й забараняліся газэты. Пачалі за беларускія песьні забараняць і канцэрты Забэйды-Суміцкага, зь беларускай песьняй не дапушчалі яго ў радыёвыя перадачы.

У Вільні канцэрты Забэйды ладзіў звычайна Беларускі Студэнцкі Саюз на ўнівэрсытэце. Важным тут было тое, што дзякуючы ўнівэрсытэцкай аўтаноміі ад адміністрацыйнай ўлады, дазвол на канцэрт у ўнівэрсытэцкай залі студэнцкая арганізацыя даставала ад рэктара. Ня было патрэбы прасіць дазвол ад паліцыі, дазвол ад якой на беларускі канцэрт ў Вільні тады дастаць было вельмі цяжка.

Гэтак з ладжаньнем канцэртаў Забэйды-Суміцкага на ўнівэрсытэце было пры рэктарах лібэральных паглядаў. Справа зьмянілася калі рэктарам быў выбраны шавініст кс. А. Вуйціцкі. На просьбу Беларускага Студэнцкага Саюзу даць дазвол на канцэрт студэнцкага хору й Забэйды-Суміцкага ў залі Сьнядэцкіх 3. VI. 1939 г. гэты рэктар раптам „забыўся" пра ўнівэрсытэцкую аўтаномію й зажадаў дастаць спачатку паліцыйны дазвол. Калі-ж паліцыйная ўлада дазволу не дала, ня даў дазволу й кс. Вуйціцкі.

### З Варшавы ня ў БССР, а ў Прагу

Тры месяцы пазьней, 1 верасьня 1939 г., Гітлер заатакаваў Польшчу, пачалася вайна, якая Забэйду-Суміцкага засьпела ў Варшаве. Там ён перажыў жудасьці нямецкае аблогі й абстрэлу места, капітуляцыю Варшавы, а пасьля — голад. З усходу праз савецкую мяжу, прабіраецца да Забэйды ў Варшаву ягоны сваяк, камуніст, суліць перавесьці нелегальна праз савецкую мяжу, гаворыць пра вялікія пэрспэктывы для яго, як сьпевака, у БССР. За раду й прапанаваную дапамогу Забэйда-Суміцкі падзякаваў, ды ў БССР не падаўся, а ў травені 1940 г. перабраўся ў чэскую Прагу.

Хоць і Прага была тады ў зялезных клешчах нямецкай гітлераўскай акупацыі, аднак у чэскім славянскім культурным асяродзьдзі мастак беларускае песьні чуўся лепш, як у галоднай зруйнаванай Варшаве. Хутка ён увязаўся ў музычнае жыцьцё Прагі. Ужо ў 1940 г. Забэйда выступае ў Народным Тэатры Прагі ў ролі Ленскага, а ў сьнежані таго-ж году ладзіцца ягоны першы канцэрт у Празе. У праграме канцэрту — побач песьняў чэскіх Дворжэка, Новака, Смэтаны, песьняў кампазытараў італьянскіх Качыні, Карыссімі, нямецкіх Моцарта, былі й беларускія песьні.

### Духовае падтрыманьне песьняй

У часе вайны, запрошаны беларускімі арганізацыямі, Забэйда-Су-

(Заканчэньне на 4-ай бач.)



**МІХАЛ ЗАБЭЙДА-СУМІЦКІ сярод беларускага культурна-нацыянальнага актыву Вільні.** Здымка зробленая 16. V. 1937 г. пасьля „Канцэрту беларускае песьні", зладжанага Беларускім Студэнцкім Саюзам у залі Сьнядэцкіх Віленскага Ўнівэрсытэту. Праграму канцэрту складалі выступы сьпевака й хору Беларускага Студэнцкага Саюзу пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы.

Сядзяць, пачынаючы справа: **Антон Луцкевіч,** дырэктар Беларускага Музэю імя Івана Луцкевіча ў Вільні; **Рыгор Шырма,** кіраўнік хору; **Міхал Забэйда-Суміцкі;** праф. **Канстантын Галкоўскі,** кампазытар; **Вячаслаў Багдановіч,** сэнатар; інжынер **Антон Нэканда-Трэпка.** Стаяць, пачынаючы справа: др. **Янка Станкевіч,** лектар беларускае мовы на Віленскім Унівэрсытэце; кс. **Станіслаў Глякоўскі,** рэдактар часапісу для дзяцей „Пралескі"; др. **Станіслаў Станкевіч; Максім Танк; Сяргей Паўловіч,** магістар багаслоўя, пэдагог. Сядзяць унізе студэнты **Марыя Мілочанка** й **Вітаўт Тумаш.**

**СЬВ. ПАМ.**

**МІХАЛ ЗАБЭЙДА-СУМІЦКІ**

**опэрны й канцэртны сьпявак-тэнар, выдатны выканаўца беларускай песьні, народжаны 14 чырвеня 1900 г. ў Несьцяровічах каля Ружаны, на Палесьсі, памёр 21 сьнежаня 1981 г. ў Празе Чэскай, аб чым з сумам паведамляе**

**Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва**

## УСЁ ЖЫЦЬЦЁ — РОДНАЙ ПЕСЬНІ

(Заканчэньне з 3-яй бач.)

міцкі дае — і па разоў колькі — канцэрты ў Лодзі, Познані, Бэрліне. Першы канцэрт у Бэрліне, зладжаны зь вялікай удачай у канцэртнай залі Шумана Беларускім Камітэтам Самапомачы, адбыўся 28. XII. 1941 г., другі ў студзені 1943 г. У Варшаве Забэйда-Суміцкі выступаў з канцэртам у 1944 г. пры нагодзе сьвята Незалежнасьці Беларусі. Мастака сьпеву слухачы ўсюды сустракалі зь вялікім захапленьнем і шчодра абдорвалі воплескамі.

Аб'яжджаў з канцэртамі Забэйда-Суміцкі й беларускія землі, нясучы суродзічам у цяжкія гады вайны й нямецкае акупацыі духовае падтрыманьне песьняй. Канцэрты адбыліся ў 1942-1944 гадох у Менску, Баранавічах, Ваўкавыску ды іншых месцах. Падчас турнэ па беларускай Дзьвіншчыне ўвосені 1943 г. сьпявак даў 7 канцэртаў, а восьмы адбыўся ў Рызе, у вялікай залі ўнівэрсытэту (залі на 1300 месцаў) 28. IX. 1943 г. І гэтым разам сыпаліся воплескі, кветкі.

Апошнія канцэрты сьпевака ваенных гадоў былі арганізаваныя ў Бэрліне. У залі Бэтховэна Бэрлінскай Фільгармоніі канцэрт ладзіўся 13. I. 1945. У сталічным месьце Нямеччыны было тады шмат Беларусаў: і прымусова вывезеныя на працу, і тыя, што самахоць эвакуаваліся на захад дзеля рэакупацыі Беларусі савецкай арміяй. У праграме, як заўсёды ў Забэйды — беларускія песьні й рамансы побач твораў клясычнае музыкі. Акампаніяваў кампазытар М. Шчаглоў. І гэтым разам выканаўцу беларускае песьні сустракалі з энтузіязмам, шчодра дарылі кветкі, вымагалі паўтораў.

Ужо назаўтра сьпявак выступіў з канцэртам і ў Беларускім Кадравым Батальёне ў Бэрліне. Жаўнеры сустрэлі яго асабліва горача, блізу пасьля кажнае песьні выклікалі на „біс", насілі на руках. 17 студзеня на бэрлінскай радыястанцыі Забэйда-Суміцкі напяяў на магнітафонную істужку 8 беларускіх песьняў Каля 20 песьняў і рамансаў было тады-ж напяяна для кружэлак. Запісы для кружэлак беларускіх песьняў былі зробленыя і ў Празе.

У 1944 г. сьпеваку давялося трапіць у вязьніцу. Ведаючы пра сымпатыі мастака да чэскага вызвольнага руху, яго арыштавала Гестапо, як падазронага ў сувязі з тэрарыстычнай дзейнасьцяй чэскіх патрыётаў. Пасьля колькітыднёвых допытаў, калі довадаў знайсьці не ўдалося, Забэйду з турмы звольнілі.

### Па вайне ў Празе

У Празе Забэйда-Суміцкі застаўся й па вайне, быў там дзейным як канцэртны сьпявак і пэдагог, на бацькаўшчыну не паехаў. У Чэхіі аднак ён ніколі не забываўся пра сваю беларускую песьню. Пры кажнай нагодзе выступаў зь ёю на канцэртных эстрадах ці ў радыё. Канцэрты меў у Празе, у Карлавых Варах, у славацкай Братыславе. Быў ён запрошаны ў камісію для адбору маладых таленавітых сьпевакоў. За заслугі ў музычнай галіне ў 1965 г. Забэйдзе-Суміцкаму была прызнаная прэмія Чэскага Музычнага Фонду.

У Празе было выдадзена й колькі кружэлак зь песьнямі ў выкананьні сьпевака. На аднэй зь іх на адным боку 7 песьняў гішпанскіх, на другім — 6 беларускіх. У 1969 г. фірма „Супрафон" выдала, у варыянтах мона й стэрэа, даўгаграйную кружэлку Забэйды-Суміцкага, на якой 17 беларускіх песьняў і рамансаў. На кружэлкі напяяў сьпявак таксама 10 песьняў італьянскіх, творы Моцарта й Гэндэля ды нэапалітанскую і індыянскую песьні.

### Гастролі ў БССР і Польшчы

Увесну 1963 г. Забэйда гастраляваў у БССР, меў канцэрты ў Менску ды колькіх іншых гарадох рэспублікі. У Менску ён тады сустрэўся ізноў з Р. Шырмам, які ў 1970 г., з нагоды 70-х угодкаў жыцьця сьпевака, апублікаваў артыкул пра выдатныя заслугі Забэйды для беларускай песьні, і асабліва ў даваенную пару.

Меў Забэйда-Суміцкі ў 1965 г. сямідзённае канцэртнае турнэ і па беларускай Беласточчыне ў Польшчы. Сустракалі там яго вельмі цёпла. У Беластоку тады была выдадзеная й кружэлка, на якой 11 беларускіх песьняў выкананых Забэйдам у суправаджэньні аркестры Э. Цюкшы.

### Працавітасьць і разнастайнасьць

Як сьпявак, Забэйда-Суміцкі адзначаўся нязвычайнай працавітасьцяй і няспыннай актыўнасьцяй. Сьпяваў ён больш як у дваццацёх опэрах, выступаў з сьпевамі на канцэртах, пяяў у радыё, на кружэлкі напяяў больш за сто песьняў. Бальшыня зь іх беларускія. Рэпэртуар мастака адзначаўся багацьцем і разнастайнасьцяй вакальных твораў: былі тут опэрныя арыі, араторыі, кантаты, песьні й рамансы розных народаў, часоў, стыляў і розных аўтараў, ад клясыкаў да кампазытараў сучасных. Забэйда-Суміцкі блізу заўсёды выконваў твор у ягонай арыгінальнай мове, і яму даводзілася пяяць у 16-х мовах. Каб якнайбольш прыблізіць сьпяванае да слухача, пяяў заўсёды напамяць.

### „Пяяў душой"

Высокі мастацкі ўзровень сьпеву мастак дасягаў нясьпыннай працай над сваім голасам. Ён апрацоўваў уважна кажны твор перад выкананьнем, кажную музычную фразу. У ягоным сьпеве было асабліва шмат шчырага пачуцьця, спалучанага з натуральнай прасьцінёй мастацкага выкананьня. Пра яго казалі, што ён „пяяў ня толькі голасам, але й душой". Дзеля гэтага Забэйда-Суміцкі, як ніхто з сьпевакоў, і раскрываў духовае багацьце, красу й ідэйную вымову беларускае песьні.

Дзякуючы добрай школе сьпеву і музычнай культуры, мастак узьнімаў песьню свайго народу да ўзвышшаў твораў найвыдатнейшых эўрапейскіх кампазытараў, захоўваючы адначасна ў поўнай чысьціні ейны народны характар, ейную нацыянальную „душу". Высокамастацкім выкананьнем ён уводзіў беларускі песенны фальклёр у сусьветную музычную літаратуру.

Беларускія песьні ў выкананьні Забэйды-Суміцкага адзначаліся заўсёды й беззаганнай беларускай вымовай. Як заўважыў і Р. Шырма, мова Забэйды была „мілагучная, сьпеўная, запраўды беларуская". Уражала гэта асабліва, калі ўзяць на ўвагу, што пачынаючы ад 16 году жыцьця Забэйда-Суміцкі жыў на чужыне — у Расеі, Манджурыі, Італіі, Польшчы, Чэхіі, — ды толькі рэдчас меў нагоду наведаць край свае мовы. І не зважаючы на гэта, мастак захаваў ня толькі „песьню мае маці", але й сваю родную мову ў беззаганнай чысьціні ейнага вымаўленьня.

Гістарычны парадокс нашага часу, што беларускую песьню зь беларускай вымовай можна сяньня пачуць з кружэлак напяяных Забэйдам-Суміцкім у Празе Чэскай ці народжаным у ЗША сьпеваком Данчыкам у Нью Ёрку, а не ў сталічным месьце беларускае рэспублікі, ня ў Менску. Там сучасныя салісты пяюць яе, як правіла, з вымовай „разанскай".

### Вялізарнае маральна-нацыянальнае ўзьдзеяньне

Зьвярнуць важна ўвагу й на тое, што ўзьдзеяньне мастацкае актыўнасьці выдатнага сьпевака перарастала межы самога сьпеву. У абставінах гістарычнае пары мела яно й вялікае нацыянальна-палітычнае значаньне. У 1936 г., калі Забэйда зьявіўся зь беларускай песьняй на канцэртных эстрадах Заходняе Беларусі, беларускае культурна-нацыянальнае жыцьцё ў Польшчы прасьледвалася, зацісkалася польскімі ўладамі. Усе беларускія школы былі даўно закрытыя. У працэсе ліквідацыі знаходзілася апошняя школа сярэдняя — Віленская Беларуская Гімназія. Антыбеларускі курс асабліва наглеў у наяве таго, што па другі бок Рыскае мяжы, у Беларускай ССР, гэтым самым часам праводзіўся жорсткі разгром беларускае культуры з масавым нішчэньнем пісьменьнікаў, вучоных, мастакоў, усяе нацыянальнае інтэлігенцыі.

Зьяўленьне гэткаю парой выдатнага беларускага сьпевака, ягоныя, выкананыя з канцэртных эстрадаў ды напяяныя на кружэлкі песьні, выкананыя побач зь песьнямі выдатных кампазытараў эўрапейскае музыкі, як творы роўныя ім красою й багацьцем духова-ідэйнага зьместу, мелі вялізарнае маральна-нацыянальнае ўзьдзеяньне на беларускага слухача.

Ідэйная сіла беларускае песьні ў выкананьні Забэйды-Суміцкага і затрывожыла польскіх валадароў беларускіх земляў. Дзеля гэтага пачаліся намаганьні не дапусьціць ягоную песьню ў радыё, на канцэртныя эстрады, не дапусьціць да ягонага народу.

Хоць жыць выдатнаму мастаку беларускае песьні давялося ў вельмі цяжкіх гістарычных абставінах, аднак усё сваё жыцьцё і аж да магілы, ён застаўся верным пастаўленаму сабе заданьню: „Родную песьню — песьню мае маці — распаўсюджваць, несьці яе ў сьвет, паказаць ейную красу, даваць людзям радасьць ды ўзбагачваць гэтай песьняй сусьветную культуру".

І апошніх сорак гадоў, жывучы ў Скарынавым „Слаўным Месьце Праскім", Забэйда-Суміцкі сваім сьпевам вытрывала нёс беларускую песьню „у сьвет", раскрываў ейнае багацьце й красу, дзе мог і як мог. І рабіў гэта ў Чэскай Празе сам адзін. Для гістарычнае пары характэрна й тое, што калі ён памёр, сьмерць заслужанага для беларускай песьні сьпевака валадары Беларускай рэспублікі ў менскім друку й адным радком не адзначылі. Але не забудзе ніколі вялікага мастака свае песьні ягоны беларускі народ.

**А. Багровіч**

(Заканчэньне з 2-ой бач.)

### МАСТАЦКАЯ ВЫСТАЎКА Ў ТАРОНЬЦЕ

Рамкі й дэкарацыйныя квадраты стратэгічна разьвешаныя на сьценах, сталы да кавы расстаўленыя на падлозе, а шкатулкі ды іншыя інкруставаныя прадметы разложаныя на стале, засланым вагністымі посьцілкамі, прывезенымі з роднага Палесься, спад Шарашова.

З Пружанаў у Шарашова ехалася праз вуліцу Хватку. А Хватка, як і суседняя вуліца Горка слынулі калісь народным прыкладным мастацтвам — ганчарствам. І сярод ганчароў Горкі й Хваткі ці адзін быў мастаком. Пішу цяпер пра гэта таму, што думаю, што сп. Мікола Шуст мае за сабой і працягвае традыцыю народных мастакоў беларускага Палесься. Пажаданым было-б, каб ён гэтую традыцыю перадаў нашчадкам.

**Раіса Жук-Грышкевіч**

## СЬВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ ІВАН МУХА

3-га лютага 1982 пакінуў нашу ньюёркаўскую калёнію адзін з выдатных ейных прадстаўнікоў сьв. пам. Іван Муха. Сьціплы ён быў



Ураджай руплівага гаспадара

чалавек, але абдораны розумам і сэрцам. Любіў усіх людзей за тое, што яны людзі. І людзі любілі яго: за ягоную ўвагу да кожнага, за пашану, якую да іх выяўляў, за дапамогу, якой не шкадаваў, за радасную ўсьмешку пры спатканьні.

Прайшоў Нябожчык ня лёгкі, складаны жыцьцёвы шлях, але застаўся і спагадлівым і спачувальным да суродзічаў. Быў глыбокім энтузіястам, цешыўся з кожнага дня, не разгубляючы на дробязі ягоны сэнс.

Напісаў сваю аўтабіяграфію, але даволі суха, і гэта, відаць, праз скромнасьць, каб лішне не дакучаць слухачом, чытачом нават па сьмерці. Магчыма яе й не закончыў, бо нічога ня ўспомніў пра сям'ю, якою так даражыў.

### Кароткая аўтабіяграфія

Іван Муха, сын Еўдакіі, народжаны 3-га сьнежня 1912 года ў мястэчку Ахроміевічы Карукаўскага раёну (цяпер Шчорсаўскі раён) Чарнігаўскай вобласьці. У сваім мястэчку скончыў сярэднюю школу й тэхнікум. Паступіў у Чарнігаўскі Настаўніцкі Інстытут, які закончыў. Пасьля цучыўся у пэдагагічна-настаўніцкім 4-хгадовым інстытуце ў горадзе Нежыне. Закончыўшы, працаваў настаўнікам ў сярэдняй (10-гадовай) школе й тэхнікуме. Выкладаў матэматыку й фізыку. Быўшы студэнтам у цяжкія гады галаду (1922-1934), днём вучыўся у інстытуце, а вечарамі й начамі зарабляў на пражыцьцё.

У 1939 годзе мяне забралі у Чырвоную армію і я трапіў у палкавую танкавую школу ў горадзе Гомелі (на Беларусі). Закончыўшы яе з рангай капітана запасу, чакаў восені, каб ізноў перайсьці на настаўніцкую працу (1941 г.).

Выбухла вайна, цяжкі час застаў мяне на фроньце. Доўгі час давялося пераждыць у аколіцах Белавескае Пушчы. У 1942 годзе мяне прынялі на пасаду настаўніка матэматыкі у Настаўніцкую Сэмінарыю ў Нясьвіжы. Там быў два разы арыштаваны і больш за два месяцы праседзеў у Баранавічах у турме. У 1946 г. злучыўся зь Беларусамі ў лягерах у Нямеччыне. Жыў у Рэгенсбургу, Віньдзішбэргэрдорфе, Розэнгайме ды іншых месцах. У 1950 г. выехаў у ЗША, у Нью Ёрк, дзе й жыў увесь час. Кіраваў спортам беларускай моладзі ад часу набыцьця Беларусамі адпачынковага рэсорту Бэлер-Менск, дапамагаў праводзіць спартовыя гульні.

### Успамін сп. Міхася Тулейкі

Першым Беларусам, якога спаткаў сьв. пам. Іван Муха на беларускай зямлі быў В. Мікула, зь якім выпадкова сустрэўся каля Снову. Сам быўшы настаўнікам, Мікула параіў Муху паехаць у Нясьвіж на працу у настаўніцкую сэмінарыю, што ён ахвотна й зрабіў. Іван Муха выкладаў матэматыку ў сэмінарыі ад 1942-га і да 1944 году. Быў добрым выкладчыкам і вучні яго вельмі любілі.

Незадоўга перад эвакуацыяй быў арыштаваны Немцамі, але, дзякуючы напорным стараньням вучняў сэмінарыі, быў звольнены з турмы ды вярнуўся у Нясьвіж на ранейшую працу выкладчыка. У выніку эвакуацыі у 1944 г. апынуўся ў Нямеччыне, дзе працаваў на хвабрыцы, а па вайне жыў у беларускіх лягерох, настаўнічаў ізноў у Беларускай Гімназіі імя Я. Купалы ў Міхэльсдорфе. У 1949 годзе ажаніўся з Клаўдзіяй Сурнінай, а ў 1950 г. з жонкай і малым сынком Ігарам прыбыў у Злучаныя Штаты Амэрыкі, у Нью Ёрк. Тут Іван Муха спачатку працаваў у розных майстэрнях, а пасьля шмат гадоў красьляром у дарожных фірмах Нью Ёрку. Усюды быў добрым і цэнным працаўніком. На пэнсію выйшаў у канцы 1980 году.

Прыдбаў уласны дом у прыгарадзе Нью Ёрку Джамэйцы і ўтрымваў яго ў узорным стане. Усё жыцьцё сваё любіў ён моладзь і тое, чым моладзь заўсёды захапляецца — спорт. Шмат памагаў моладзі ў спартовых занятках як добры інструктар, асабліва ў летні час на рэсорце Бэлер-Менск, дзе кожнае лета праводзіў свае вакацыі.

Быў Нябожчык таксама выдатным рыбаком і шахматыстам. Яго любілі за ягонае запраўднае сяброўства й прыхільнасьць да людзей. Кожнаму быў гатоў дапамагчы ў патрэбе. Заўсёды ахвяроўваў у меру сваіх магчымасьцяў на беларускую прэсу й царкву. Быў пабожны і з радасьцяй прыймаў сьвятара з Ярданскай Вадою ў сваім доме.

Апошнія гады паважна недамагаў, а 3-га лютага сёлета раптоўна й нечакана назаўсёды абарвалася жыцьцё Івана Мухі.

Пакінуў у вялікім смутку жонку Клаўдзію, любімага сына Ігара і доўгую памяць аб сабе сярод усіх Беларусаў. Многія, хто яго ведаў, прыйшлі на апошняе разьвітаньне. І тут яшчэ раз выявілася, як яго людзі шанавалі й шкадавалі, што перадчасна адыйшоў на той сьвет.

Вечны супакой дай яму, Божа!

***

Перадрукоўваю гэтыя радкі й міжвольна ўстаюць перад вачыма Іван Муха і мая сястра сьп. пам. Вера ды іншыя гаротныя, перапалоханыя былыя савецкія настаўнікі, настаўніцы. Вось бачу, як Іван Муха жне пшаніцу на вялікім палетку маемасьці, якую, прыехаўшы з Амэрыкі, муж сястры адкупіў ад роду Кандратовічаў — Міхалаву Горку. Жнуць для забавы ды адпачываюць пад ценем стогадовых ліпаў. І вочы іхныя сьмяюцца, бо іх ад арышту перад Немцамі абараніла сястра, паручыўшыся за іх сваёю маемасьцяй.

А сьв. пам. Іван, угледзеўшы мяне ў царкве на Атлянтык Авэню ў Брукліне, сьпяшаўся падыйсьці да мяне. і першыя ягоныя словы — усё пра тое-ж мінулае: „Ці памятаеце вы, як тады ў вашай сястры Веры?.. ."

Будзе мне так ставаць Вашае гутаркі, дарагі Іван.

**Зіна Станкевіч**

### У ПАМЯЦЬ НАСТАЎНІКА Й СЯБРЫ

Мы пазнаёміліся зь ім у раньнюю паваенную пару ў горадзе Рэгэнсбургу. Мы, тады яшчэ маладыя хлапцы й дзяўчаты пару год перад дваццаткай — у бальшыні вучні Беларускае Гімназіі імя Янкі Купалы, а ён — наш настаўнік. Аднак, пасьля знаёмства за школьнай лаўкай, мы хутка адчулі, што ён — спадар Муха, як мы яго заўсёды звалі — быў для нас больш як настаўнік. Ён для нас адразу стаўся блізкім, старэйшым паважаным сябрам.

Паза школай ён стаўся рухавіком спорту — валейболу, баскетболу, футболу, бегу, ну, і пэўна-ж, ягоных улюбёных шахматаў. Стаўся ён для нас і дараднікам у скаўцкіх гульнях, паходах, спаборніцтвах. І ад Рэгэнсбургу, ад лета 1946 г., у нашай памяці гэтак ён і захаваўся праз усе гады.

У беларускім спорце ня было бадай галіны, у якой спадар Муха нешта-б не арганізоўваў, дапамагаў, дапілноўваў. Пакаленьні беларускае моладзі праходзілі ў школе і ў спорце праз нагляд спадара Мухі. Спачатку Рэгэнсбург, потым Міхэльсдорф, а тады Амэрыка: Нью Ёрк, Бэлер-Менск — усюды арганізацыя, праца.

Спадар Муха быў прыкладам уважлівасьці, аб'ектыўнасьці, дакладнасьці, спакойнасьці ды ветлівасьці — якасьці, якія гэтак умела ён стараўся прышчапіць маладзейшым, ня толькі нам у паваеннай Нямеччыне, але й тут у Амэрыцы нашым дзецям.

Зацікаўленьне моладзяй, ейным выхаваньнем і навучаньнем, бадай, ці ня былі асноўнай мэтай ягонага жыцьця. Прыгадваецца, як недзе ў часе шуканьня й куплі рэсорту Бэлер-Менск напачатку 60-х гадоў, спадар Муха выказаўся: „Асноўнае дзеля чаго трэба купіць рэсорт, гэта каб трымаць моладзь разам". І дваццаць блізу гадоў працы з моладзяй на рэсорце сталіся яшчэ адным канкрэтным ўкладам у выхаваньне беларускай моладзі.

Спадар Муха браў таксама актыўны ўдзел і ў шырокім грамадзкім жыцьці, быў дзейны прыхаджанін беларускіх прыходаў, часты ўдзельнік навуковых зборак у Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва.

Сьветлая ягоная постаць назаўсёды застанецца ў памяці беларускага грамадзтва. Вечная Яму Памяць.

**Вучні й сябры**

# BIEŁARUS

Monthly. Published by the Byelorussian-American Association, Inc., P.O. Box 178, Jamaica, N. Y. 11431. Price per copy: $1.25, subscription $12.00 per year.

## OUSTER OF BYELORUSSIA AND UKRAINE FROM U.N. "IMPOSSIBLE"

Mrs. Jean J. Kirkpatrick, America's ambassador to the United Nations, in an interview with Radio Liberty's correspondent in February of this year was asked: " Why the Soviet Union [still] has actually three voices [in the United Nations]? And what can be done about it?" Ambassador Kirkpatrick answered as follows:

"It's outrageous, isn't it? I mean it's just appalling. We know why they do. They do because they succeeded in persuading the other nations at the beginning and because none desires, really, to take on the Soviet Union within the United Nations. And given the pattern of block dynamics in the politics in the United Nations, anybody who takes them on, probably loses. Now that's not always true. On Afghanistan, for example, they have lost. But look what they have lost. Ninety thousand Soviet troops in Afghanistan occupying that nation and repressing those people. The United Nations passes a resolution which calls for the withdrawal of all foreign troops from Afghanistan. We welcome that resolution, we're for it. But that resolution doesn't even mention the Soviet Union by name. And the same thing is true, by the way, of the Cambodia resolution. So, its possible to hand the Soviet Union a defeat, providing we don't call them by name. **It would be, I think, impossible today, in the United Nations to secure support for any move that deprived Byelorussia or Ukraine of their votes. In other words, it would be impossible to deprive the Soviet Union of the advantage of having three votes instead of one** (emphasis added — Ed.).

The question of Byelorussia's and Ukraine's U.N. membership as well as the paradox of the Soviet Union's three votes seem to be perennial and, as the years go by, not very clear-cut as to the "oustability" of the two republics from the United Nations.

What Ambassador Kirkpatrick said takes us back to October 1971 when a suggestion of "two-Chinas-with-one-voice" was weighed in the American press in analogy to the "three-Soviets-with-one-voice" precedent.

The New York Times columnist C.L. Sulzberger expressed an opinion then that the seats of Minsk and Kiev in the United Nations cannot, from the viewpoint of international law, be simply eliminated. "There is no legal insurance," Sulzberger wrote, "that if Byelorussia or Ukraine ever seceded from the U.S.S.R. they would lose their U.N. membership." And he added: "The original Russian block of three votes might simply disintegrate or speak with more than one vote." (C. L. Sulzberger, "Two Chinas With One Vote,", **NYT**, Oct. 8, 1971)

Sulzberger, by the way, quoted from a cable Stalin sent President Roosevelt prior to the Yalta conference (1945): "You, of course, know that Ukraine and Byelorussia, which are constituent parts of the Soviet Union, are greater in population and in political importance than certain other countries which we all agree should belong to the number of initiators of the establishment of the international organization."

Historian and political scientist Prof. Adam B. Ulam in his book, **The Rivals: America and Russia since World War II** (New York: The Viking Press, 1971, p. 54) explains: "Stalin had argued eloquently how he might have political difficulties (!) in Ukraine and Belorussia if they were not represented in the United Nations."

Apart from the "impossibility" of depriving the Soviet Union of "Byelorussian" and "Ukrainian" votes referred to by Mrs. Kirkpatrick, Moscow would also fight any attempt at expulsion for internal political reasons — that is, for the same reasons that she insisted on the two republics' U.N. membership in the first place. Byelorussians and Ukrainians, both in exile and, as far as can be ascertained, in their homelands as well, take pride in the fact that the names of their nations figure on the roster of the United Nations' founding states, in spite of the sad reality that Minsk and Kiev have been slavishly following Moscow's line in the world body.

There is an explanation and perhaps a justification for this dichotomy: Byelorussian and Ukrainian nationalisms use all available psychological ingredients to nurture either the drive for independence or, on a less ambitious scale, a sense of nationhood within the Soviet federation.

It seems, therefore, that the tactics of the West in relation to Moscow's two other votes in the United Nations should be not the ouster of Byelorussia and Ukraine, but a policy directed at enhancing the strivings of the Byelorussians and Ukrainians to loosen Moscow's grip on them in order to bring about the genuine representation of these two peoples in international deliberations.

**J. Z.**

## AMBASSADOR KAMPELMAN: "KUKABAKA STANDS TALL"

Mrs. Vera Romuk, the very active secretary of the Bielarusian Coordinating Committee of Chicago, Illinois, has informed our newspaper, that she has written a letter, in the name of the Committee, to the Honorable Max M. Kampelman, head of the American delegation to the Madrid Conference on Security and Cooperation in Europe. In that letter, dated November 30, 1981, Mrs. Romuk thanked Ambassador Kampelman for a copy of his statement in defense of human rights and expressed her sadness that "the name of **Michal Kukabaka**, a Bielarusian (Byelorussian) dissident did not appear in any of the communications that were brought to my attention." Mrs. Romuk informed the Ambassador she is "sending another request to all the non-Communist delegations to the Madrid Conference in the hope that some action will be taken on behalf of this very talented, brave, and deserving man before the holiday recess goes into effect."

Mr. Kampelman replied to Mrs. Romuk's leter, under date of December 14, 1981, as follows:

Thank you for writing on behalf of the Bielarusian Coordinating Committee to express concern for human rights activist and prisoner of conscience Michal Kukabaka. He is well-known to the U.S. delegation, for we associate his name with the cause of human freedom in Bielorusia and in the Soviet Union as a whole. Mr. Kukabaka stands tall with other selfless human rights activists who defend the Helsinki Final Act's principles in the face of Soviet repression. These courageous men and women all deserve special mention here at the Madrid Meeting. Unfortunately, it is impossible to name every one of them at the meeting.

Please be assured that Mr. Kukabaka's plight and the fate of his fellow prisoners of conscience in the Soviet Union are never far from my mind and that I will continue to avail myself of the opportunities presented by the Madrid Meeting to try to help them.

Sincerely,

Max M. Kampelman
Chairman

## THE KUPALA-KOLAS CENTENNIAL

**(The fourth in a series of articles)**

**National consciousness in the press and literature**

Political and national traditions in Central and Eastern Europe have often been conceived, developed, and maintained around a national language. This phenomenon was fully understood in both the Russian and Polish camps in Byelorussia before World War I, as Father Konstantin Okolovich, representing the Minsk gubernia in the tsarist State Duma (parliament), pointed out with alarm in 1913:

> The fall of the Russian language is not only the fall of the Russian language, but the fall of Russia. What is the language? It is the life, it is the spirit of a people, the reflection and at the same time the eternal guardian of its individual national ideas.

Russian nationalists in the State Dumas fighing Polish influences in the North-Western region, as Byelorussia was officially called, sought to strengthen their linguistic positions by imitating their enemy, the Poles. A rightist deputy from the Oryol gubernia, S. A. Volodimerov, denouncing the liberalism of the Russian Constitutional Democrats along with the "medley of nationalities" who spoiled the "great Russian language," commended the Poles for preserving the purity of their tongue: "They know what they are doing," said Volodimerov, "they know that the native language is the citadel of national consciousness, that it is a fortress to be defended with one's all might." And so it went all through the entire history of the Dumas from 1906 to 1917.

Language being the banner of political sentiment made the Russian authorities especially suspicious toward the Byelorussian "dialect" which was striving to gain literary status and around which, starting with the publication of **Naša Niva** in 1906, political demands began to be heard, especially in the field of education.

The first attempts to launch Byelorussian-language publications were thwarted administratively, with the official explanation of lack of popular support for such ventures. In August, 1906, for example, a rightist St.-Petersburg magazine, **Okrainy Rossii** (Russia's Borderlands), describing efforts by Byelorussians to start their first legal newspaper, **Naša Dola** (Our Fate), explained:

> Previous attempts in various places to establish Byelorussian-dialect publications have failed until now, partly because they were incomprehensible to the Byelorussian masses and partly because they were superfluous.

"Incomprehensibility" and "superfluousness" were not the only reason why Byelorussian publications did not thrive in tsarist Russia. **Okrainy Rossii** itself indicated an additional cause, when six weeks later it proclaimed emphatically:

> The Russian language cannot allow another official language, like Swedish in Finland or German in the Baltic to exist beside it... But even more criminal would be any tolerance of the efforts of our Byelorussian and Little Russian separatists in Byelorussia and Ukraine to expel our national lanuage from official places, courts, and schools and to replace it by one of the local dialects.

This reasoning, widely held in official circles, well explains the failure of the "previous attempts" mentioned by **Okrainy Rossii** to launch Byelorussian publications. Certainly there could have been no other motive for the refusal received by the Byelorussian writer Karuś Kahaniec (Kazimier Kastravicki) when in 1905 he applied for permission to publish a Byelorussian newspaper **Palessie.**

The 1905 grant of freedom for Byelorussian-language publications was accompanied by vigilant official surveillance, confiscations, and jailings. Such harassment lasted until 1917, as reported, among other places, by Inorodetz in his book, **La Russie et les peuples allogenes** (Berne, 1917, p. 128):

> The new constitutional Russia has not given more freedom to the Byelorussians; employees of the three ministries (war, agriculture, and public education) are forbidden to subscribe to Byelorussian newspapers and to buy books published in this language.

It was actually a slightly liberalized continuation of the pre-1905 policy when, as reported by a London publication, **The Anglo-Russian** (Dec. 1904, p. 876):

> A Ministerial order forbade the use of White Russian in private assemblies and soldiers were not allowed to receive letters from home written in their native language. In the schools the penalty for the use of their mother tongue amongst the pupils was expulsion.

Under such conditions of official persecution, altered insignificantly by the 1905 revolution, opposed by the flourishing and aggressive Russian and Polish languages, both freighted with the religious mission, the Byelorussian peasant tongue had to overcome tremendous obstacles to defend and widen its place in the sun. Its lack of recognition as a literary language was applied against it politically. In 1906, a ministerial decision was made, approved by the Tsar, according to which the Byelorussian language could not be granted the right to become a language of instruction in the schools because of its lack of literature.

One of the highest hurdles was, however, not legal or political, but psychological and social. To a vast majority of the Byelorussian people the image of their language was a peasant image and no more. The very concept of Byelorussian nationality was associated inextricably with the social condition of the peasantry. Even in official writings, as for instance reference books about the deputies to the State Duma, the nationality of some of the deputies was marked as **beloruss-krestyanin**, or reversed, **krestyanin-belorus**s — "Peasant-Byelorussian," an expression unusual for his Russian and Polish counterparts.

Lack of literary achievements, high illiteracy (in 1897, 74.3 per cent), two centuries of Polonization topped by over a century of Russification, which had cost the Byelorussian people the allegiance of their higher social strata, and especially the welding of Orthodoxy to Russianism and Catholicism to Polonism presented formidable difficulties for the development of a sense of Byelorussian identity as a force stimulating the development of a national culture and a corresponding political movement.

The wall of prejudice against oneself was self-perpetuating as well as cultivated from the outside. In 1908, in his article, "National and Religious Problems in Contemporary Russia," A. S. Izgoyev wrote in **Russkaya mysl'** (Moscow, May 1908, pp. 123-124):

> The language spoken by the Great Russian, Little Russian, and Byelorussian masses, of course, is different.... Byelorussian dialects (they are numerous, the same as Little Russian and Great Russian) have until now not produced their own literary language and to count upon the appearance of such a language in the future seems to us a sheer utopia.

By 1906 small and scattered groups of Byelorussian intellectuals were working hard to achieve that "sheer utopia." Creation of a national literature as a means of political revival was the first order of the day. In 1906, the year of the opening of the State Duma, the newly emerged bard of Byelorussia, the future Byelorussian classic writer, Janka Kupała, finished one of his poems, "You Are Telling Me," with the following stanza expressing and formulating the character of the new Byelorussian literature.

> I ponder the fate of my people today,
> Their fate is the heart of my desparate lay.
> Let the world hear the words of my folk dispossessed,
> And their truth make the enemy fear the oppresed.
> Let the longing for liberty fill the slave's breast
> And the status of man be my brother's prime quest.

During the first one-and-a-half decades of this century poems and short stories by the revolutionary and dynamic Ciotka, Janka Kupała, Jakub Kołas, Maksim Bahdanovič, Maksim Harecki, Zmitrok Biadula, Aleś Harun, Vacłau Łastouski and other writers of modern Byelorussian literature, and many minor literati, steadily gained circulation among students and workers of Byelorussia. Their writings were disseminated and widely read at revolutionary meetings and among student organizations.

Since 1906, when the weekly **Naša Niva** began toappear, considerable progress was made in the field of Byelorussian publications. In 1913, **Naša Niva** was joined by another weekly, also published in Vilnia, named **Biełaruś**, aimed mainly at Byelorussian Catholics. In early 1914, in Minsk, two monthly Byelorussian periodicals were launched: **Lučynka** (Torch), a children's magazine, and **Sacha** (Plough), a publication for peasants.

During the last years before World War I, more young Byelorussians were able to gain a formal education without traveling beyond the borders of Byelorussia: in addition to a teachers' institute in Vilnia and teachers' colleges at Niesviž and Maładečna, pedagogical courses had been offered since 1907 in Viciebsk, Homiel, Mahileu and Babrujsk. Pedagogical institutes were opened in Viciebsk (1910), Mahileu (1913), and Minsk (1914), and women's teachers' colleges at Orša and Barysau (1914).

Contributions to the cultural scene of Byelorussia were made by Byelorussian students in St. Petersburg. In 1912 they started publishing a literary semi-annual almanac, **Maładaja Biełaruś**, in 1914 — a magazine **Ranica** (Morning). Among twenty-four Byelorussian books published in 1913 there were collections of poetry, short stories, and articles, as well as the first thorough study by Auhien Chlabcevič, "Rebirth of Byelorussian Narodnik Literature," indicating the existence of a body of literature solidly expressing Byelorussian national aspirations.

These and other achievements of the Byelorussian movement were also recognized by Russian liberal publications in Byelorussia. For example, the newspaper **Severo-Zapadnaya Mysl** of November 1, 1914, wrote that "during the last eight or ten years a process of national rebirth had been underway, Byelorussian literature had been developing and the national consciousness together with it."

The idea of Byelorussian language as a means of official communication was gaining ground. In July 1914, for example, the Minsk "Committee for Social Assistance to the Families of Reservists of Lower Ranks Called into the Active Service" issued an appeal in four languages one of which was Byelorussian (the other three were Russian, Polish, and Yiddish). Slowly, a new movement began to gain momentum which culminated in March 1918 in the proclamation of Byelorussia's Independence.

**Jan Zaprudnik**

## SLAVIC FESTIVAL IN APRIL

The Fourth Annual Penn State Folk Festival sponsored by the Department of Slavic Languages will be held in the Robeson Cultural Center on the Penn State campus at University Park, PA from 9:00 a.m. until 10:00 p.m. on April 23 and from 9:00 a.m. until 5:00 p.m. on April 24.

The festival will feature displays of Slavic folk arts and artifacts. Ukrainian Easter egg painting and icon painting will be demonstrated.

Choral and dance groups will be featured as well as individual vocalists and instrumentalists. A band will play for dancing on Friday evening and Saturday afternoon. Slide shows and an ethnic snack bar will be featured.

Lorraine Kapitanoff will coordinate the festival assisted by Thomas F. Magner, William Schmalstieg, Joseph Paternost, Linda Ivanits, James Gebhard, and Sigmund Birkenmayer.

The Byelorussian-American Association and Byelorussian-American Youth Organization are participating in the Festival this year, too.

## KOSCIUSKO WAS A BYELORUSSIAN

Our reader, Mrs. Vera Romuk, has advised us that **The Sun-Times** of Chicago (Feb. 8, 1982) published a letter by one of its readers, Bohdan O. Pauke, who wrote:

"Although he sympathized with the Polish cause, (Thaddeus) Kosciusko was not Polish. By nationality he was Byelorussian, born in the village of Merechowschina and a citizen of Lithuania. Since the formation of the Lithuanian-Byelorussian Commonwealth in the late 13th century, all Byelorussians considered themselves politically as Lithuanians.

"The grandson of a Byelorussian Catholic clergyman (a 'Uniate'), Kosciusko never called himself a Pole, but a Lithuanian, and spoke of his motherland as 'Litwa' (Lithuanian Commonwealth)."

The above remark was prompted by a letter to **The Sun-Times** suggesting that one of Chicago's drive's be named after Lech Walesa. In that letter reference was made to Kosciusko as a "famous Pole."